# РАСКАЗВАЮЦЬ МАЯКІ

Лепшыя кінамеханікі, работнікі клубных устаноў і кніжных магазінаў, паліграфісты, бібліятэкары нашай рэспублікі сустракаюць XXII з'езд роднай партыі новымі поспехамі ў сваёй працы. Аб гэтым ішла гаворка на першым злёце ўдарнікаў і брыгад камуністычнай працы работнікаў культуры Мінскай вобласці. Начальнік абласнога ўпраўлення культуры тав. Міхневіч расказаў, як разгортваецца спаборніцтва за камуністычную працу сярод работнікаў культуры вобласці. У гонар з'езда 19 кінамеханікаў у верасні-кастрычніку выканалі гадавыя планы. Рад раёнаў вобласці: Барысаўскі, Нясвіжскі, Дзяржынскі, Плешчаніцкі датэрмінова завяршылі выкананне васьмімесячнага плана абслугоўвання гледача.

Вопытам работы падзяліліся на злёце кінамеханік Нясвіжскага раёна І. Слонімскі, загадчык клуба саўгаса імя дзесяцігоддзя БССР Любанскага раёна М. Буранаў, дырэктар Палачанскага сельскага Дома культуры Маладзечанскага раёна В. Сербава і многія іншыя. З прамовай на злёце выступіў сакратар Мінскага абкома КПБ А. Кузьмін.

# Першыя выпрабаванні

**Дзве серыі фільма «Першыя выпрабаванні», якія выпусціла кінастудыя «Беларусьфільм», з'яўляюцца найбольш буйной і значнай працай нашых кінематаграфістаў за апошні час. Таму рэдакцыя палічыла мэтазгодным даць больш падрабязны крытычны разгляд гэтага фільма.**

**З артыкулам літаратуразнаўца В. Каваленкі рэдакцыя папярэдне пазнаёміла кінакрытыка Ф. Бондараву і народнага артыста БССР прафесара Д. Арлова. Кожны з іх выказаў свае думкі аб экранізацыі коласаўскай трылогіі.**

**Рэдакцыя пагаджаецца з асноўнымі думкамі і заўвагамі В. Каваленкі і Д. Арлова. Разам з тым, рэдакцыя лічыць, што нельга цалкам закрэсліваць фільм як твор кінамастацтва.**

**Мы лічым, што вопыт работы над фільмам многаму навучыць работнікаў кіно, і беларускія кінематаграфісты ў далейшым будуць з большай адказнасцю, з большай ашчаднасцю і майстэрствам узнаўляць на экране творы беларускай літаратуры.**

# „СПРЭЧКІ" З КЛАСІКАЙ

**В. КАВАЛЕНКА**

Калі некалькі год назад беларускія кінематаграфісты вырашылі паставіць фільм на аснове трылогіі Я. Коласа «На ростанях», гэта было сустрэта з вялікай радасцю ўсімі, хто любіць творчасць выдатнага беларускага пісьменніка. Каму не хочацца ўбачыць любімых літаратурных герояў на экране!

І думалася, раз калектыў кінастудыі «Беларусьфільм» зацікавіўся такім псіхалагічна-глыбокім і філасофска багатым творам, як трылогія «На ростанях», дзе праўдзіва і гістарычна дакладна паказана жыццё беларускай інтэлігенцыі ў дарэвалюцыйны час, то, відаць, ён адчувае свае творчыя сілы і здолее стварыць высокамастацкі кінафільм.

Для беларускіх кінаработнікаў праца над трылогіяй Я. Коласа магла стаць выдатнай школай рэалістычнага майстэрства. Фільмы, якія выпусціла кінастудыя «Беларусьфільм» у апошнія гады, за невялікім выключэннем, неглыбокія па змесце, з беднай праблематыкай. Вобразам, як правіла, бракуе глыбокага сацыяльна-псіхалагічнага напаўнення. Зварот да трылогіі «На ростанях», аднаго з выдатных твораў беларускай літаратуры, здавалася, сведчыў, што работнікі кінастудыі імкнуцца ўзняць сваю творчую прадукцыю на ўзровень лепшых дасягненняў сучаснага кінамастацтва.

А хіба не надзённая задача для беларускага кіно мець, нарэшце, уласнае аблічча? Экранізацыя класікі—адзін са шляхоў, які вядзе да ажыццяўлення гэтай задачы. І вось на экраны выйшлі дзве серыі кінафільма. Ф. Бондарава ў рэцэнзіі на «Першыя выпрабаванні» («Літаратура і мастацтва», 1960, 26 жніўня) відавочна паспяшалася, калі адразу пасля выхаду на экран першай серыі напісала, што ў аматараў беларускага кіно «прыемны настрой» з прычыны такой падзеі. Прычым сказана было гэта настолькі катэгарычна, з такой неапраўданай прэтэнзіяй гаварыць ад імя ўсіх гледачоў, што наводзіла на думку аб намерах рэцэнзента папярэдзіць супрацьлеглую ацэнку кінафільма. Сапраўды, творчая пазіцыя аўтараў фільма выклікае жаданне спрачацца з імі.

Трылогія «На ростанях» пісалася народным паэтам доўгі час. Першая аповесць «У палескай глушы» з'явілася ў 1922 годзе, а закончана трылогія праз трыццаць з лішнім гадоў, незадоўга перад смерцю пісьменніка. У трылогіі, адным з самых глыбокіх сваіх твораў, Я. Колас паказаў складаны і пакутлівы шлях беларускай інтэлігенцыі ў народ, у рэвалюцыю. У цэнтры аўтарскага апавядання — малады настаўнік Лабановіч. Ён належаў да той часткі дарэвалюцыйнай беларускай інтэлігенцыі, якая, згодна слоў народнага паэта, «вобмацкам шукала шляхоў, каб пазнаць корань рэчаў». Пошукі праўды жыцця даваліся герою Я. Коласа так нялёгка, што ў хвіліны адчаю ён думае пра самагубства. Але, жывучы разам з народам, пранікаючыся яго інтарэсамі, Лабановіч паступова пазнае, што высокі сэнс чалавечага існавання— у барацьбе за народнае шчасце.

Настаўніцкая праца Лабановіча; яго ўзаемаадносіны з сялянамі, з прадстаўнікамі інтэлігенцыі, сярод якіх ёсць людзі перадавыя, але ёсць і непапраўныя мяшчане, абыякавыя да лёсу роднага краю; страсны юнацкі роздум над жыццёвымі праблемамі; чыстае, узнёслае каханне да Ядвісі — усё гэта раскрывае вельмі прывабны, духоўна глыбокі вобраз чалавека, на долю якога выпала многа зрабіць для свайго народа. У аснове трылогіі нямала сапраўдных момантаў з жыцця Я. Коласа.

Глядач быў бы ўдзячны работнікам кіно, калі б яны ўслед за Я. Коласам гістарычна праўдзіва паказалі, як у жорсткіх выпрабаваннях мужнела беларуская народная інтэлігенцыя. Але нічога падобнага няма ў кінафільме «Першыя выпрабаванні». Няма ні коласаўскага сельскага настаўніка Лабановіча з яго складанымі і нялёгкімі пошукамі, ні яго спраў. У фільме Лабановіч з'яўляецца другараднай асобай і, апрача прафесіянальнага занятку, нічым не нагадвае вобраза, створанага народным паэтам Беларусі.

Абараняючы пазіцыю аўтараў фільма, рэцэнзент Ф. Бондарава спасылаецца на права творчага падыходу да класічнага твора, на спецыфіку кіно. Але ж ніхто такога права і не адбірае ў мастака. Вядома, стваральнікі фільма зусім не абавязаны капіраваць ва ўсім літаратурны арыгінал. У кіно свае, спецыфічныя сродкі адлюстравання. Акрамя таго, дапускаецца новая трактоўка вобразаў, падкрэсліванне думкі пісьменніка, завастрэнне надзённасці некаторых праблем. Абавязковым застаецца толькі следаванне духу творчасці пісьменніка. У аўтараў фільма можа быць розны падыход да літаратурнай асновы карціны, аднак савецкае кінамастацтва заўсёды ганарылася ўважлівымі і беражлівымі адносінамі да класічнай літаратуры, чым заслужыла павагу і ў нашых, і ў зарубежных гледачоў. Нельга выводзіць герояў з кола тых жыццёвых інтарэсаў, якімі яны жывуць у літаратурным творы.

У літаратуры адзіным мастацкім сродкам адлюстравання жыцця з'яўляецца слова. У кінамастацтве выяўленчыя функцыі слова абмежаваныя, там існуюць поруч са словам іншыя сродкі выражаць аўтарскую думку. У гэтым і заключаецца спецыфіка кіно ў параўнанні з літаратурай. Успомнім, што кіно спачатку было зусім «нямое», абыходзілася без слоў. Канкрэтна пры распрацоўцы сцэнарыя на аснове літаратурнага твора спецыфіка праяўляецца ў тым, каб слоўныя мастацкія апісанні замяніць кінематаграфічнымі маляўнічымі сродкамі. А скарачэнні — яны непазбежныя ў сцэнарным варыянце твора — не павінны закранаць галоўнага, не павінны звужаць ідэю твора. В. Шклоўскі адносна экранізацыі рамана А. Талстога «Анна Карэніна» піша: «Трэба зразумець ідэалогію рамана, каб захаваць ідэю ў паказе» («На вяршыні талстоўскіх раманаў», «Искусство кино», 1960 , № 11). Але нашто, з якіх меркаванняў трэба абараняць «спецыфіку», якая вядзе да скажэння ідэйнай сутнасці класічнага твора?

Атрымліваецца дзіўная рэч. Аўтары фільма «Першыя выпрабаванні» і рэцэнзент Ф. Бондарава, прыкрываючыся спецыфікай кіно, самі не разумеюць яе сутнасці, прымаючы за спецыфіку нешта такое, што ў сучасным кінамастацтве не дапускаецца.

У рэцэнзіі Ф. Бондаравай сказана: «Падзеі і вобразы, кампазіцыйная будова ў ім (у кінафільме «Першыя выпрабаванні». — **В. К.**) падначалены законам кінадраматургіі, якія, як вядома, патрабуюць актыўнага дзеяння, дакладна акрэсленага сюжэта, лаканічнага дыялогу». Бачыце, трылогія «На ростанях» добры літаратурны твор (Ф. Бондарава згаджаецца нават назваць яго «энцыклапедыяй жыцця беларускага народа ў дарэвалюцыйны час»). Аднак у ім ёсць расцягнутыя дыялогі, слабы сюжэт, а законы кінадраматургіі, або інакш «спецыфіка», патрабуюць ажыўлення дзеяння, бо ці ж гэта цікава, калі герой замкнуўся ў вёсцы і не паказвае носу з сваёй палескай глушы. Які ж гэта перадавы чалавек? Вывесці яго на прастор! Няхай дапамагае рэвалюцыянерам-падпольшчыкам, праца якіх небяспечная і поўная нечаканасцей. Гледачу розныя нечаканасці і вострыя моманты толькі падавай! Лабановіч пакахаў Ядвісю і на гэтым усё скончылася? Мала! Няхай уступіць у фіктыўны шлюб з рэвалюцыянеркай Вольгай Андросавай. Тут падскочыць ад здзіўлення самы вытрыманы глядач. Ядвісія таксама пакахала Лабановіча? Прэсна! Няхай яна здрадзіць каханаму, выйдзе замуж за другога, а пасля зноў прызнаецца, што кахае Лабановіча. Вось гэта будзе па-сучаснаму! Скажуць, што ў фільме няма Я. Коласа? Такой бяды, затое ёсць «спецыфіка».

Рэжысёр і сцэнарысты ўсё зрабілі для таго, каб накруціць славуты «кінематаграфічны сюжэт», стварыць знешнюю лінію ўражальных і вострых падзей. А раз у трылогіі «На ростанях» такіх падзей няма, іх давялося выдумляць, беручы рэцэпт «займальнасці» з вельмі непатрабавальных, рамесніцкіх кінафільмаў.

Такім чынам, сапраўднае мастацтва класічнага твора было прынесена ў ахвяру спрошчаным уяўленням аб «законах кінадраматургіі». У сувязі з гэтым варта нагадаць такі выпадак. П'есу А. Чэхава «Іваноў» пасля першай пастаноўкі не ўсе зразумелі. Праз некалькі дзён да пісьменніка заявіўся модны ў той час драматург, натрэніраваны ў стварэнні «сцэнічных» канфліктаў, і прапанаваў зрабіць п'есу больш «тэатральнай». Сапраўды, у «Іванове» засталіся неразвітымі многія «выйгрышныя» канфлікты. Напрыклад, суперніцы не лаюцца, не «змагаюцца» за Іванова. Але А. Чэхаў, вядома, не згадзіўся на рамесніцкую перапрацоўку сваёй п'есы. Нам здаецца, аўтары фільма «Першыя выпрабаванні» прарабілі з творам Я. Коласа нешта падобнае.

У дадатак можна прывесці мноства выказванняў вядомых дзеячоў савецкага кінамастацтва супраць разумення спецыфікі кіно як знешняй займальнасці, як нечага такога, што вядзе да карэнных змен літаратурнай асновы. В. Шклоўскі, які многа працаваў над раманамі Л. Талстога, піша: «Шкодна будзе, калі мы будзем адносіцца да Талстога так, што гэта, маўляў, літаратура, а мы зробім другое, таму што ў нас ёсць другая спецыфіка. Спецыфіка — гэта другі спосаб паказваць тое ж самае, а не абмежаванне адлюстравання... Барацьба за пераадоленне спецыфікі — гэта барацьба за новыя формы кінематаграфічнага мастацтва» («На вяршыні талстоўскіх раманаў», «Искусство кино», 1960, № 11).

Такіх жа поглядаў прытрымліваецца Яўг. Габрыловіч:

«Я мяркую, што... «унутраны сюжэт», пазбаўлены знешніх прыкмет руху, не толькі можа быць ажыццёўлены на экране, але можа ўражаць глыбей, чым усякі іншы. Можна паставіць фільм пра Ваньку Жукава, дзе дзеянне адбывалася б толькі ў адным пакоі і заключалася толькі ў тым, што Ванька піша пісьмо. Трэба толькі знайсці ў гэтым пакоі той дакладны рад дэталей, які суправаджаў бы ўнутраны голас Ванькі ў час пісання пісьма».

І далей: «Той, хто адводзіць кіно адну толькі магчымасць — знешняе дзеянне — прыніжае гэтае мастацтва, зводзіць яго да ролі ўбогага рамесніцтва. Кінамастацтва валодае неабмежаванымі магчымасцямі і яму даступна выражэнне самых захаваных і складаных рухаў, пазбаўленых, здавалася б, знешняй актыўнасці» («Работа над кінанавелай», «Искусство кино», 1960, № 11).

Свой фільм, створаны на аснове трылогіі Я. Коласа, аўтары не назвалі экранізацыяй, хоць яны «ўзялі на сябе, — калі верыць Ф. Бондаравай, — складаную задачу ўвасобіць на экране ідэі і вобразы трылогіі». Пастаноўка такой задачы азначае не што іншае як экранізацыю. Але не будзем прыдзірлівымі. Паглядзім на гэты фільм як на кінатвор, пастаўлены «па матывах» трылогіі Я. Коласа, калі гэтага жадаюць тыя, хто лічыць яго бясспрэчным мастацкім дасягненнем. Адразу ўзнікае пытанне, як можна адшукаць у кінафільме «Першыя выпрабаванні» коласаўскія матывы, калі ў ім не захавана без змен ні адна сюжэтная лінія, нават з ліку галоўных! Відаць, рэжысёр і сцэнарысты спадзяваліся, што падзагаловак «па матывах» зменшыць іх віну перад Я. Коласам. Аднак гэта іх не ратуе. «Па матывах трылогіі Я. Коласа» абавязкова азначае «па Коласу».

Кадр з фільма «Першыя выпрабаванні».

Нядаўна на экранах ішлі фільмы, створаныя па матывах твораў М. Горкага, Д. Маміна-Сібірака і Л. Талстога. Аднак у гледачоў не ўзнікала сумнення, што яны бачаць герояў якраз гэтых пісьменнікаў, хоць героі кінафільмаў не заўсёды мелі поўнае падабенства з героямі літаратурнымі. Там былі ідэі, стыль, мова М. Горкага, Д. Маміна-Сібірака і Л. Талстога. А фільм «Першыя выпрабаванні», наколькі мы можам меркаваць, стварае беспрэцэдэнтны выпадак. Бадай што, нельга назваць ні аднаго савецкага фільма, у якім бы так адвольна пераглядаўся і паднаўляўся класічны твор. У фільме створана новая сюжэтыка, уведзены новыя персанажы, якія і не сніліся Я. Коласу, а галоўныя героі ў кінафільме маюць іншы жыццёвы лёс. У выніку мяняецца змест твора, яго праблематыка, і ад Коласа застаецца ўсяго толькі тое, што захаваны прозвішчы галоўных герояў і некаторыя сюжэтныя сітуацыі, якія найчасцей маюць зусім іншы сэнс з прычыны таго, што яны вырваны з агульнай эмацыянальнай атмасферы коласаўскага твора. Героі фільма настолькі далёкія ад Коласа, што фальш бадай найбольш выразна адчуваецца там, дзе аўтары набліжаюцца да тэксту трылогіі. Напрыклад, няцяжка зразумець Лабановіча ў трылогіі, калі ён, доўга б'ючыся над загадкамі жыцця, параўноўвае сваё становішча з лёсам мух, якія мітусяцца пад шкляным каўпаком. Але калі ў фільме гэта гаворыць чалавек, блізкі да рэвалюцыянераў, то яго словы гучаць нечакана і двухсэнсоўна.

Таму даводзіцца толькі дзівіцца, калі Ф. Бондарава ў рэцэнзіі на кінафільм, прызнаўшы, што «А. Куляшоў і М. Лужанін напісалі, па сутнасці, новы літаратурны твор», сцвярджае, што яны адначасова стараліся «перадаць асноўны ідэйны змест першакрыніцы, раскрыць яго філасофскую сутнасць». Калі сцэнарысты напісалі новы твор, то няхай ён і лічыцца іхнім творам. А прычым тут Колас і яго трылогія «На ростанях»?

Кінафільм «Першыя выпрабаванні» апавядае не пра коласаўскіх герояў, а паказвае падзеі 1905 года ў Беларусі. Вядома, нашаму гледачу вельмі патрэбны фільмы пра рэвалюцыю 1905 г. І відавочна, што той жа творчы калектыў, які працаваў над «Першымі выпрабаваннямі», з поспехам справіўся б з падобнай задачай. Але нашто літаратурную аснову такога фільма прыпісваць менавіта Якубу Коласу? Ён у гэтым якраз не мае патрэбы.

Перадаць праблематыку трылогіі Я. Коласа, паказаць, як беларуская інтэлігенцыя ішла ў рэвалюцыю, нельга без больш-менш глыбокага і паслядоўнага раскрыцця інтэлектуальна-духоўнага і ідэйнага росту галоўнага героя. Лёс Лабановіча — асноўнае ў творы народнага паэта. Аўтары фільма не пайшлі ў сваёй працы па такому шляху і таму не здолелі перанесці на экран нават асноўны змест трылогіі.

Лабановіч Якуба Коласа нават у 1905 годзе ўсё яшчэ шукае шляхоў да праўды. З бальшавіком ён упершыню сустракаецца ў турме, аж у канцы апошняй кнігі, дзеянне якой адносіцца да больш позняга часу. У фільме Лабановіч у перыяд рэвалюцыі 1905 года ўжо на баку бальшавікоў, дапамагае ім у падпольнай працы. Паказаўшы галоўнага героя адразу амаль «гатовым» у сэнсе ідэйнага фармавання, блізкім да бальшавікоў, аўтары фільма згубілі, натуральна, сам прадмет мастацкага адлюстравання. Праблематыка трылогіі адразу аказалася вычарпанай. Каб запоўніць нечым двухсерыйны фільм, яны міжвольна вымушаны нагнятаць адна на адну незвычайныя сітуацыі і эфектныя сцэны, што супярэчаць духу творчасці Я. Коласа. Тут і раскошны баль у пана Скірмунта, і вельмі камічны, а таму заметны шпік, некалькі забойстваў, пагоня на лодках, ёсць нават культурны і адукаваны разбойнік, які адбірае грошы ў багатага пана — якраз усё тое, чым так багаты штампаваныя фільмы, якіх было ўжо нямала на нашых экранах. Найбольш незайздроснае становішча аўтараў фільма ў другой серыі. Пачаўшы фільм з таго, чым кончылася трылогія, яны прымушаны ў канцы поўнасцю перайсці на забаўныя выдумкі, каб як-небудзь завалодаць увагай гледача.

Вось Лабановіч (па задуме Я. Коласа — мужыцкі сын, які моцна стаіць на народным грунце) танцуе, быццам свецкі дэндзі, на балі ў пана Скірмунта, вядзе тонкія і прыемныя размовы з дачкой гаспадара. Выходзіць, сціплы вясковы настаўнік быў прыбліжаны да панскага двара, з ім заігрывалі паны. Больш таго, Лабановіч у фільме спадзяецца, што паны ўступяць сялянам зямлю. Гледача, які чытаў трылогію «На ростанях», не можа не збянтэжыць такая трактоўка галоўнага вобраза з твора вялікага беларускага пісьменніка.

Герой Я. Коласа вельмі цесна звязаны духоўна з народным асяроддзем, чаго нельга сказаць пра Лабановіча ў фільме. Ён тут нават у сваім побыце занадта высока падымаецца над народам, над яго жыццём, каб быць мужыцкім сынам, які востра адчувае народныя патрэбы. У яго характары няма адзнак «мужыцкасці». Таму ў фільме аказваецца непатрэбным і сам мужык — аб'ект пастаяннай увагі Лабановіча. Беларускі селянін у фільме «Першыя выпрабаванні» амаль не паказаны, а там, дзе ён паказваецца, яго воблік зусім іншы, чым у творах Я. Коласа, дзе дарэвалюцыйны селянін выступае разумным чалавекам, з пастаяннай хітрынкай, гумарыстам і насмешнікам. Мужык уводзіцца ў фільм хутчэй як этнаграфічная, дэкарацыйная, а не рэальная жыццёвая фігура.

Лабановіч Я. Коласа падняўся ў сваім развіцці значна вышэй школьных таварышаў. У фільме— наадварот. Яго таварышы сталі рэвалюцыянерамі і вядуць яго за сабой. Зразумела, што ў такой сітуацыі ўчынкі і справы галоўнага героя пераацэньваюцца. Напрыклад, за тое, што Лабановіч напісаў петыцыю сялян да пана, у трылогіі яго арыштавалі, а пасля перавялі ў другую школу. Але аўтары фільма лічаць, што гэта не такі ўжо і геройскі ўчынак. Яны нават адважваюцца сцвярджаць, што, напісаўшы петыцыю, Лабановіч дапамог пану, а не сялянам, бо папярэдзіў петыцыяй пана аб надыходзячых падзеях. Яны, трэба сказаць, па-свойму лагічна «вядуць» дзеянне, таму што бальшавіку, за якога выдаецца Лабановіч ужо ў пачатку фільма, петыцыя сапраўды не рабіла б вялікага гонару. Але ўся бяда ў тым, што такая трактоўка эпізода з петыцыяй вядзе да відавочнага скажэння трылогіі Я. Коласа. Сцэнарысты «не заўважылі», што ўчынак Лабановіча расхвальвае паліцмейстару як «дапамогу пану» сусед настаўніка, ляснічы, на падтрымку якога Лабановіч раней разлічваў. Ён спадзяваўся: «У выпадку чаго ляснічы закіне за мяне слоўца». Апрача таго, у трылогіі ясна гаворыцца, што «шчаслівая выпадковасць дапамагла Лабановічу выпутацца з непрыемнага становішча». Для начальства настаўнік, які напісаў ультыматыўную петыцыю з пагрозай пану ад імя сялян «ужыць іншыя сродкі», калі пан не ўступіць народу, застаўся, натуральна, бунтаўшчыком. Сапраўды, падтрымка сялянскіх патрабаванняў сведчыла аб несумненным ідэйна-палітычным росце Лабановіча. Аднак аўтары фільма прабіраюць героя за гэты ўчынак, быццам свавольнага школьніка. Няўжо гэта і ёсць следаванне духу коласаўскай трылогіі!

Наогул, Лабановіч у фільме ў адрозненне ад Лабановіча Я. Коласа зусім іншы тып, чалавек з іншым характарам і духоўным складам. Тое ж самае можна сказаць і пра другіх герояў, у тым ліку пра Ядвісю. Аўтары фільма чамусьці вырашылі, што яе непасрэднасць, чысціня і высакароднасць душы, самабытнасць характару не могуць зацікавіць нашага сучасніка, і ўскладнілі яе лёс (непаразуменне з нелегальнай брашурай). Усумніліся яны і ў тым, ці будзе цікавай для гледачоў любоўная лінія без жаніцьбы. Па іх волі з «дзікай кветкі Палесся» яна ператварылася ў ардынарную дзяўчыну, у правінцыяльную абывацельку. Вось якой стала Ядвіся,—у трылогіі чыстая, валявая і паэтычная натура, якая адчувае нікчэмнасць навакольнага жыцця і марыць аб лепшым будучым.

Даводзіцца дзівіцца з таго, што гэтыя маніпуляцыі прароблены з тымі героямі Я. Коласа, з якімі зжылося і якіх палюбіла ўжо не адно пакаленне людзей. Таму глядач не можа не адчуць болю, калі яму замест любімых герояў паказваюць людзей нецікавых, неглыбокіх і нават пустых. Такая падмена нічым не апраўдваецца, і яна абражальная для памяці народнага паэта.

Нават сапраўдны гістарычны факт, апісаны ў трылогіі, — настаўніцкі з'езд — зняты з дабаўленнем кінематаграфічнай «прыгажосці». Тут і агні купалля ў лесе, і народныя гульні ля агнёў і г. д. Заадно аўтары рашылі даць гледачу этнаграфічныя веды, хоць Колас у мастацкіх творах ніколі не захапляўся этнаграфічнымі апісаннямі.

А чаго варты канец фільма, дзе Лабановіч і Вольга Андросава едуць у цягніку на фронт першай імперыялістычнай вайны! У Я. Коласа нічога падобнага няма. Але ж ці маглі аўтары фільма не ўспомніць пра цягнік, калі заўсёды лічылася, што з яго дапамогай можна ствараць уражальны эфект. Ім мала абыходзіць тое, што рух цягніка стаў у кінамастацтве ўжо штампам. Было б толькі прыгожа! Ну, а куды ж адправіць герояў у цягніку, ды яшчэ з правадзінамі, як не на вайну? Хай едуць з богам! Гэтак лёгка дзеля эфекту прыносіцца ў ахвяру змест класічнага твора.

Так, мы можам пагадзіцца з аўтарамі фільма «Першыя выпрабаванні», што трылогію «На ростанях» нялёгка перавесці на мову кіно. Сапраўды, трылогія — твор вялікай псіхалагічнай культуры. Але гэта азначае ўсяго толькі тое, што трэба было больш упарта шукаць адпаведных кінематаграфічных сродкаў для перадачы яе багатага зместу. Варта было павучыцца на вопыце савецкіх майстроў кіно. Наколькі нам вядома, творы А. Чэхава таксама лічацца надзвычай цяжкімі для кінематаграфіі. Але яшчэ ніхто, дзякаваць богу, не асмеліўся для «ажыўлення дзеяння» ўваскрашаць Дымава ў «Стракозе», а «Даму з сабачкам» перарабляць у авантурны прыгодніцкі твор. Гэта была б скандальная гісторыя. Тым не менш з трылогіяй Якуба Коласа нешта такое здарылася.

Дзіўна таксама, што некаторыя кінакрытыкі дружна падтрымалі такую вялікую адвольнасць, учыненую з трылогіяй народнага паэта.

Думаецца, што класічны твор Я. Коласа «На ростанях» заслугоўвае таго, каб на яго аснове быў створаны добры, хвалюючы кінафільм.

Кадр з фільма «Першыя выпрабаванні».

# ПЕРШЫЯ КАНЦЭРТЫ СЕЗОНА

Аматары сур'ёзнай музыкі з нецярплівасцю чакалі адкрыцця новага канцэртнага сезона, новых сустрэч з аркестрам нашай філармоніі, якому нядаўна прысвоена званне Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра Беларускай ССР. І першы канцэрт пад кіраўніцтвам В. Дуброўскага спраўдзіў спадзяванні шматлікіх слухачоў, якія запоўнілі залу акругавага Дома афіцэраў. Цікавая была праграма гэтага канцэрта. Ён пачаўся выкананнем двух новых твораў беларускай музыкі — «Святочнай уверцюры» А. Багатырова і «Урачыстай уверцюры» Я. Глебава, прысвечаных XXII з'езду КПСС.

А. Багатыроў умела скарыстаў у сваёй уверцюры народна-песенныя інтанацыі і дасягае прыўзнята-ўрачыстага, святочнага характару твора.

У аснову «Урачыстай уверцюры» Я. Глебава пакладзена тэма старадаўняй рускай песні «Сонца ўзыходзіць і заходзіць». Гэты твор радуе маляўнічай аркестроўкай, умелай распрацоўкай тэматычнага матэрыялу.

Адзінаццатая сімфонія «1905 год» Д. Шастаковіча — выдатны твор савецкай музыкі. Мінчане слухаюць яе не ўпершыню. Аднак сіла мастацкага ўздзеяння гэтага твора на слухачоў такая, што з кожным паўторным выкананнем яго партытура раскрываецца неяк па-новаму і хвалюе.

На адкрыцці музычнага сезона быў сыгран і Першы фартэпіянны канцэрт П. Чайкоўскага. Салістам-выканаўцам выступіў прафесар Ленінградскай кансерваторыі, народны артыст РСФСР П. Серабракоў. Гэта была ігра вельмі вопытнага майстра, цудоўнага музыканта. Паэтычныя вобразы канцэрта знайшлі ўдумлівага інтэрпрэтатара. Піяніст і аркестр склалі сапраўдны адзіны ансамбль.

Праграма другога сімфанічнага канцэрта, які адбыўся ў мінулую нядзелю, таксама абяцала аматарам музыкі шмат цікавага. У пачатку канцэрта прагучала сімфанічная сюіта беларускага кампазітара Г. Вагнера. Гэты твор не новы, ён апрабіраваны ўжо на разнастайнай аўдыторыі. Апроч Беларусі, сюіта Г. Вагнера выконвалася ў адкрытых канцэртах на Украіне, у Народнай Рэспубліцы Балгарыі. Над развучваннем гэтага твора з аркестрам працаваў В. Дуброўскі, пад яго ж кіраўніцтвам сюіта раней і выконвалася. На гэты раз ёю дырыжыраваў М. Нерсясян. І трэба сказаць, што твор ад гэтага многае страціў: згаслі яго вобразы, зрабіліся цьмянымі фарбы партытуры, нібы хтосьці падмяніў музыкантаў аркестра. Той, хто ўпершыню слухаў у гэты вечар сімфанічную сюіту, наўрад ці здолеў па вартасці ацаніць яе. Сюіта была выканана вяла, неэмацыянальна.

Праўда, калі было аб'яўлена аб чарговым нумары праграмы — Другім фартэпіянным канцэрце С. Пракоф'ева, у зале, ды і ў самім аркестры, адчувалася ажыўленне. На эстраду выйшаў лаўрэат міжнародных конкурсаў піяністаў Ул. Ашкеназі, які выканаў канцэрт С. Пракоф'ева — адзін з самых складаных твораў фартэпіяннай музыкі. Выступленне піяніста прынесла слухачам сапраўдную асалоду. У выкананні канцэрта Пракоф'ева аркестр аказаўся дастойным партнёрам саліста.

У гэты ж вечар была сыграна Сёмая сімфонія Пракоф'ева. Напоўненая адчуваннем святла, маладосці, нейкай асаблівай імклівасцю і энергіяй, сімфонія даўно заваявала ў слухачоў вялікую папулярнасць.

На жаль, выкананне сімфоніі нашым аркестрам пад кіраўніцтвам М. Нерсясяна не цалкам задаволіла слухачоў. У гэтым выкананні было шмат разважлівага, што ідзе не ад самога сэрца. Вельмі холадна і спакойна расказаў нам дырыжор пра цудоўныя парыванні маладосці, пра яе захапленне жыццём, пра рамантычную мару. З «тэхналагічнага» боку выканання ў асноўным усё было на месцы, за выключэннем некаторых агрэхаў гучання асобных груп інструментаў. Але агульны, бясстрасны тон дырыжыравання М. Нерсясяна адбіўся як на самой сімфоніі, так і на ўсім канцэрце. Хацелася б, каб у наступных выступленнях гэтага дырыжора было больш палымянасці і натхнёнасці.

Праграмы першых двух канцэртаў сезона парадавалі выкананнем твораў савецкай, у тым ліку беларускай музыкі. Добра, што сезон іменна пачаўся паказам дзвюх сімфанічных уверцюр, якія нядаўна закончаны беларускімі кампазітарамі да з'езда. Аднак знаёмства з наступнымі канцэртнымі праграмамі не выклікае вялікай радасці. У іх няма навінак беларускай музыкі. І гэта ў той час, калі кампазітары рэспублікі ў сувязі з падрыхтоўкай да партыйнага з'езда стварылі цэлы рад новых сімфанічных твораў. Адсутнасць іх у рэпертуары Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра БССР нічым не можа быць апраўдана, яны павінны стаць здабыткам шырокіх народных мас.

**А. РАКАВА.**

# ГАНАРОВАЕ ЗВАННЕ

З 1922 года існуе драматычны калектыў Палаца культуры гомельскіх чыгуначнікаў імя Ул. І. Леніна. За гэты час драмгуртоўцы паказалі дзесяткі спектакляў па п'есах савецкіх і замежных драматургаў.

За дасягнутыя поспехі ў развіцці самадзейнага тэатральнага мастацтва рашэннем БРК прафсаюза чыгуначнікаў драматычнаму калектыву Палаца культуры імя Ул. І. Леніна прысвоена званне «Народны тэатр». Лепшыя самадзейныя артысты — пенсіянеры С. Каліноўская і Ул. Юткевіч, работнік студыі тэлебачання М. Мярзляк, вагаўшчык станцыі Гомель П. Праведны, слесар вагонарамонтнага завода Л. Фрадкін, слесар хлебазавода Я. Нікіфараў, работнік Палаца культуры Г. Пікоўскі ўдастоены звання—артыст Народнага тэатра.

На вечары, прысвечаным гэтай падзеі, новы Народны тэатр паказаў фрагменты са спектакляў «Два колеры» А. Зака і В. Кузняцова, «Вера Харужая» Ус. Палеткі.

**Ул. ТАНАНА.**

## На экране—навіны мастацтва

Мінская кінастудыя навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў выпусціла на экраны гарадскіх кінатэатраў і сельскіх клубаў рэспублікі кіначасопіс «Мастацтва Беларусі» № 2.

Першы сюжэт расказвае пра пастаноўку новай камедыі Андрэя Макаёнка «Лявоніха на арбіце». Гледачы ўбачаць некалькі ўрыўкаў са спектакля Тэатра імя Янкі Купалы.

Радаснай падзеяй для навучэнцаў музычных вучылішчаў Беларусі быў рэспубліканскі конкурс маладых выканаўцаў, які праводзіўся нядаўна ў Мінску. Аб гэтым цікавым спаборніцтве маладых талентаў і расказвае другі сюжэт кіначасопіса.

У наступных кінакадрах гледачы пазнаёмяцца з дыпломнай працай выпускніка Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута В. Ткачука, якую малады графік прысвяціў асваенню беларускага Палесся.

Частым госцем у калгасах вобласці бывае Народны ансамбль песні гомельскіх чыгуначнікаў. Яму і прысвечаны заключныя кінакадры часопіса.

## «Паўлінка» ў Вільнюсе

Вільнюская тэлестудыя паказала спектакль «Паўлінка» ў пастаноўцы Ашмянскага народнага тэатра.

Перад пачаткам перадачы работнікі студыі пазнаёмілі гледачоў з калектывам Народнага тэатра, расказалі пра яго творчы шлях.

Кадр з фільма «Першыя выпрабаванні».

# ПА СЦЕЖКАХ ПРАТАПТАНЫХ

**Д. АРЛОЎ,**
**народны артыст БССР, прафесар.**

Многія з нас добра памятаюць і любяць трылогію Я. Коласа «На ростанях» — аповесць надзвычай паэтычную.

Гэтая яе асаблівасць, на жаль, страчана ў фільме «Першыя выпрабаванні». Мы не адчулі імкнення аўтараў фільма захаваць своеасаблівасць коласаўскага пісьма, уласцівую пісьменніку абмалёўку гістарычнага фону эпохі.

Замест таго, каб узнавіць шырокую панараму гісторыі беларускага народа, у якой лёс настаўніка Андрэя Лабановіча і яго сяброў зліваўся б з гістарычным лёсам усяго народа, аўтары разбавілі фільм новымі сюжэтнымі сітуацыямі, якія паслабілі ідэйную накіраванасць літаратурнай першакрыніцы, збяднілі вобраз героя адвольнай пер态трактоўкай. Увагу гледачоў адцягнулі новыя акалічнасці— гісторыя фальшывага шлюбу Андрэя з Вольгай. Гэтая гісторыя ўнесла яшчэ адзін канфлікт паміж Андрэем і Ядвігай. А сама Ядвіга ператварылася ў фільме ў істоту дробную, нікчэмную. Уведзены ў фільм і розныя іншыя падзеі і ў прыватнасці — сюжэтная лінія з Крывіцкім.

Ніхто не збіраецца пазбаўляць аўтараў фільма права на домысел, асабліва, калі ён узбагачае ўспрыняцце літаратурнай першакрыніцы. Але ў дадзеным выпадку калізіі адцягнулі ўвагу ад літаратурнай першаасновы.

Зразумела, што экранізацыя класічнага твора—справа складаная. Нялёгка перадаць за тры гадзіны (у дзвюх серыях) экраннага часу шырокі паказ жыцця цэлай эпохі, складаную сістэму вобразаў, глыбіню думкі, дыялектычную супярэчлівасць ідэй і высокую гуманнасць коласаўскай трылогіі. Затое першакрыніца дае найбагацейшы матэрыял для кінематаграфістаў. Тут і «гатовыя» характары і канфлікты і г. д. Капіраваць першакрыніцу не варта, бо ў кіно ёсць свае законы, але нельга дапускаць і адвольнасці, калі ў пошуках «спецыфікі» ствараюць фільм, які мае далёкае падабенства з першакрыніцай.

Вельмі невыразны ў фільме гістарычны фон. За вонкавым з'яднаннем падзей не адчуваецца ўнутранай «падводнай» думкі, якая цэментуе розныя часткі твора ў адно арганічнае цэлае.

А вонкава ўсё нібы ў парадку. Вось гучыць урачыста прыўзнятая музыка і на экране ў віхуры танца з факеламі ў руках з'яўляюцца дзяўчаты і юнакі, апранутыя ў нацыянальнае адзенне. Адкуль з'явілася гэтая прыгожая карнавальная масоўка? Няўжо гэта сяляне

